Цана асобнага нумару 15 гр. Przesyłka opłacona ryczałtem.

№ 81 (132). Вільня, Субота 5 Лістападу 1927 г. Год III

# СЯЛЯНСКАЯ НІВА

Няхай жыве Беларускі Народ!

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі:
ВІЛЬНЯ, ЗАВАЛЬНАЯ 6. (Wilno, Zawalna 6.).
Рэдакцыя адчынена штодня ад 9 да 3 гадзіны апрача сьвята.
Рэдактар прыймае ад 12 да 2 гадз.

Зямля Сялянству бяз выкупу!

Падпіска:
на адзін месяц — 1 зал., на 3 месяцы — 2 зал., на 6 месяцаў 4 зал., на год — 8 зал.
Для заграніцы удвая даражэй.
Аплата надрукаванага залежыць ад рэдакцыі
ВЫХОДЗЕ Ў СЕРАДУ І СУБОТУ.

ОРГАН БЕЛАРУСКАГА СЯЛЯНСКАГА САЮЗУ.

## Беларуская вера.

У культуральным разьвіцьці кожнага народу рэлігія адыгрывала і яшчэ адыгрывае вельмі важную ролю. У залежнасьці ад тых ці іншых рэлігійных нормаў, ішло той ці іншай дарогай культурнае разьвіцьцё народаў і ўзрост дзяржаўнай яго магутнасьці. Трэба ведаць, што апрача высоўваньня чалавека ў сэнсе чыста рэлігійным, кожная вера зьяўляецца адначасна дзейнікам палітычнага характару, замацоўваючым, або разбураючым пануючы рэжым. Калі напрыклад возьмем дзьве веры ў б. Расейскай імпэрыі р.-каталіцкую і праваслаўную, дык кожная з іх апрача чыста рэлігійнага значэньня спаўняла палітычныя мэты, прычым, тады, калі праваслаўе было дзейнікам, які замацоўваў пануючы рэжым і пашыраў вялікарасейскую дзяржаўную думку, каталіцтва зьяўлялася дзейнікам, шкодным для русыфікатарскіх мэтаў улады і адначасна карысным для палянізацыі зямель, ляжачых на ўсход ад этнаграфічнае Польшчы. У сувязі з гэтым, зусім абаснована злажылася агульнае паняцьце, што каталіцкая вера ёсьць польскай, а праваслаўная расейскай верай. Калі браць кожную з гэтых вераў з пункту гледжаньня палітычнага, дык, ёсьць ведама, дагэтуль так было, што на нашых беларускіх землях існавалі дзьве самыя большыя па ліку прыхажан веры, гэта расейская вера і польская вера. Але на колькі Беларускі Народ узыйшоў на адраджэнскі шлях, шлях поўнага свайго вызваленьня і на колькі яшчэ іскрыцца ў яго душы рэлігійнае пачуцьцё, трэба каб гэтае пачуцьцё знайшло сабе адпаведныя варункі для свайго існаваньня. Ці-ж польская, ці расейская вера могуць даць беларускаму народу такія варункі? Ясна, што не. Толькі беларуская вера можа быць карыснай для нашага Народу, толькі яна можа ня толькі не перашкаджаць але яшчэ памагаць Беларускаму Народу вызваліцца з усяе тае няволі, у якой ён апынуўся. Якая-ж гэта беларуская вера? Тая самая праваслаўная і каталіцкая вера можа быць беларускай верай, толькі ад першай трэба адкінуць яе расейскасьць а ад другой яе польскасьць, (бо гэтыя палітычныя ахварбоўкі якраз скіраваны проці Беларусаў) і дадаць беларускасьць. Як праваслаўная царква, так і каталіцкі касьцёл стануць тады беларускай нацыянальнай верай, якая ня будзе служыць чужынцам, а толькі свайму беларускаму Народу і быць адным з важных дзейнікаў яго вызваленьня,

Калі ходзе аб беларусізацыю каталіцкага касьцёлу, дык можна сьцьвердзіць, што ў гэтым кірунку ўжо зроблены першы крок. Есьць некалькі дзесяткаў ксяндзоў, якія, тым ці іншым шляхам праводзяць у жыцьцё ідэю аб беларускасьці рэлігіі. Праўда, праца гэта вельмі памалу пасоўваецца ўперад, дзякуючы пануючай уладзе, аднак народнае захопленьне ў тых мясцох, дзе выявілася беларусізацыя касьцёлу, сьведчыць аб тым, што праца на гэтай ніве прынясе пажаданыя рэзультаты. Шмат горш стаіць справа з беларусізацыяй царквы. Беларускія сьвяшчэньнікі выхаваны ў духу праваслаўнай але расейскай веры, ніяк ня могуць зразумець, што іх верныя патрабуюць праваслаўнай, але беларускай веры і затым зусім не прабуюць беларушчыць царкву. Нічога дзіўнага, што ў сувязі з гэтым рэлігійнасьць сярод прыхажан вельмі абніжана. Калі ўжо не магчыма, або цяжка змусіць старых сьвяшчэньнікаў беларушчыць царкву, дык прынамсі новыя сьвяшчэньнікі павінны заняцца гэтай працай. Дзеля гэтага перадусім патрэбна, каб новыя сьвяшчэньнікі былі самі выхаваны ў духу праваслаўнай беларускай веры. Беларускае грамадзянства ў сваім-жа інтарэсе павінна дамагацца ад духоўных уладаў, каб праваслаўныя сэмінарыі ў Заходняй Беларусі выпускалі беларускіх, а ня польскіх ці расейскіх сьвяшчэньнікаў, і затым, каб навука ў гэтых сэмінарыях адбывалася ў беларускай мове. Справа беларусізацыі Віленскай духоўнай сэмінарыі зьяўляецца вельмі насьпеўшым і, выказваючыся цяпер за гэтую беларусізацыю, заклікаем усіх Беларусаў праваслаўных падняць у гэтым кірунку адпаведную акцыю.

Праваслаўны.

## ВОКАМ ПА СЬВЕЦЕ.

У папярэднім нашым аглядзе гаварылася аб недасканальнасьці чалавека. З гэтакага пагляду рабіліся вывады, што сучасны чалавек— разумны зьвер, г. зн., што ў людзей перамяшаліся — розум і дзікасьць. Вынікам гэтакае недасканальнасьці, паміма розных філязафічных разважаньняў, якія адкідаюць гэтыя нягодныя праявы, ствараецца на сьвеце гэтак, што чалавек у адносінах да сябе падобнага стараецца выкарыстаць другога ўсімі магчымымі спосабамі. Дык ці не рэзультат гэтага зьяўляецца тое, што наша Бацькаўшчына — Беларусь падзелена, што нашу зямельку забіраюць асаднікі ды калянiсты?..

Але-ж мы не адны ў сваім няшчасьці і нядолі... На сьвеце яшчэ многа ёсьць гэтакіх людзей, якія як мы паняволяны і знаходзяцца пад чужацкім панаваньнем. Усе яны імкнуцца да вызваленьня і так ці інакш змагаюцца са сваімі гаспадарамі. Праўда, некаторыя з іх, як і мы, тэмп змаганьня, з тых ці іншых прычынаў вядуць вяла, а другія па геройску выступаюць проці сваіх валадыроў. Да лічбы апошніх належаць Мараканцы.

У паўночна-заходнім кутку, адной з пяці частак нашай плянэты — Афрыцы існавала некалі незалежная самастойная дзяржава Марокка. Абмытая з двух бакоў водамі Атлянтыцкага акіяну, гэтая старонка вабіла зьвярынае вока эўрапэйскай культуры, дык, і ня дзіва, што больш як дваццаць гадоў таму назад, Францыя захапіла гэтую старонку і падпарадкавала 8 мільёнаў яе жыхарства пад сваё „культурнае" панаваньне. Іншыя дзяржавы таксама маючы вока на Марокка, быццам, заступіліся за гэтую старонку і гэтакім парадкам паміж некаторымі з іх распачаліся гутаркі — торг за толькі што забітую птушачку. У рэзультаце таргу, як і трэ' было думаць — Марокка падзялілі на тры часткі: большая, такі асталася Францыі, меншая Гішпаніі, а Танжэр — порт стаў нэўтральным пад аховаю: Францыі, Гішпаніі ды Англіі, якія мелі на мэце супольнае карыстаньне.

У працягу амаль-што дваццаць гадоў Мараканцы ціха і пакорна насілі чужацкае ярмо, але-ж нарэшце зварухнуліся і вось — распачаўшы барацьбу з Гішпаніяй — Мараканцы хутка прагналі іх са сваей зямелькі, а тагды ўзяліся за Францыю і таксама, мелі вялікі пасьпех. Каб здушыць імкненьне да волі і ўтрымаць сваё панаваньне Францыя і Гішпанія супольнымі сіламі выступілі проці Мараканцаў. Распачалася крывавая і заядлая барацьба. Мараканцы пад кіраўніцтвам свайго павадыра Керым — доўга змагаліся, але-ж фізычна не вытрывалі і паддаліся ізноў сваім паном. Французскія і гішпанскія крываўжэрцы жорстка расправіліся з Мараканцамі і ўсё быццам прыціхла і праўда: аружная фармальная барацьба прыціхла, аднак-жа дух Мараканцаў не зламаўся: ён вітае ў Марокку ўвесь час і будзіць і кліча народ да вызваленьня.

Некалькі дзён таму назад Мараканцы захапілі чатыры асобы з лічбы эўрапейцаў, у тым — нейкага з сям'і французскага консула.

Газэты падаюць, што гэтых нявольнікаў Мараканцы гэтак схавалі, што французы ніяк ня здоляюць знайсьці іх.

Быццам нявольнікі атпраўляны ў рукі аднаго з мараканскіх павадыроў Ульда, які знаходзіцца пад уплывам другога павадыра Гусэйна-Тэмгаса. Гэта апошні ведамы тым, што ўласнаручна забіў двох сябраў сваей сям'і, якія дазволілі сабе загаварыць з французскімі афіцэрамі. Вось дзе, запраўды нацыяналістычныя праявы—страшэнная адзнака ненавісьці да ўціскачоў.

Паміж Французамі і Мараканцамі ідуць перагаворы аб выдачы нявольнікаў. Мараканцы дамагаюцца ад Французаў некалькі мільёнаў франкаў выкупу, а таксама быццам хочуць выставіць рад дамаганьняў палітычнага характэру. Французы чакаюць ізноў аружнага паўстаньня, якое ізноў можа зьявіцца ў любы момант.

Ня робячы далейшага аналізу гэтых падзеяў, хочацца адцеміць адну, годную ўвагі, адзнаку—нацыянальную сьведамасьць Мараканцаў. Пры наліччы такога патрыятызму і жаданьня—барацьбы і змаганьня, лёс Мараканцаў гатуе ім безумоўнае збаўленьне: іх нядоля загіне...

Дык усе паняволеныя народы павінны браць прыклад ад „гэройскага" мараканскага народу, калі хочуць быць вольнымі!..

Мараканскаю справаю, увесь час, цікавіцца Італія, якую абмінулі пры раздзеле здабычы, дык і ня дзіва, што яна шукае спосабу каб найсьці „сваё". І вось цяпер, калі апякуны над Танжэрам думаюць вясьці гутарку над тым, каб чым-колечы „ашчасьлівіць" Танжэр, Італія

## Паслы Шакун і Шапель не прыняты ў Беларускі Пасольскі Клюб.

У пятніцу 4-га лістападу адбылося пасяджаньне Беларускага Пасольскага Клюбу, на якім між іншымі справамі разглядалася справа заявы паслоў Шакуна і Шапеля аб прыняцьці іх у Беларускі Пасольскі Клюб. У гэтай справе Клюб вынес наступную пастанову:

„Дзеля таго, што паслы Шакун і Шапель у працягу пяцёх гадоў зрабілі шмат шкоды Беларускаму народу, належачы да рожных польскіх, варожых да беларускіх спраў, арганізацыяў, а таксама і дзеля, таго што ўспомненыя паслы пасьля падачы ў Беларускі Клюб заявы аб прыняцьці іх у склад сяброў клюбу, ня выказалі ніякіх пачынаньняў у кірунку направы іх мінулай шкоднай працы, Бел. Пас. Клюб пастанавіў: паслоў Шакуна і Шапеля ў склад сяброў Клюбу не прыняць“.

Гэтую пастанову падпісалі: Старшыня Ф. Ярэміч, сябры — Ю. Сабалеўскі, В. Рагуля, Кс. А. Станкевіч, сэн. А. Назарэўскі і сэкрэтар сэн. В. Багдановіч.

——

Пасьля прыняцьця гэтае пастановы ў канцэлярыю Сойму было выслана паведамленьне наступнага зьместу:

Гэтым паведамляем, што п. паслы Шапель і Шакун не належаць да Беларускага пасольскага Клюбу.

(—) *Ф. Ярэміч*
Старшыня Беларускага
Пасольскага Клюбу,
пасол Сойму.
(—) *Сабалеўскі*
за сэкрэтара.

## Юрыдычныя парады.

Юрыдычная Сэкцыя Бел. Інст. Гаспадаркі і Культуры гэтым падае да агульнага ведама, што кожная парада, як вусная так лістовая, у кожнай паасобнай справе каштуе 50 гр. Калі інтэрэсант у лісьце пытаецца парады ў некалькі справах паасобных, дык павінен прыслаць належнасьць па 50 грошы за кожную паасобную справу. Апрача належнасьці за параду трэба прыслаць паштовую марку на адказ.

Такім чынам, калі хто зьвяртаецца пісьменна ў Юрыдычную Сэкцыю ў аднэй якой небудзь справе, дык павінен адначасна прыслаць 70 грошай паштовымі маркамі. Інтэрэсанты, якія не прышлюць з гары належнасьці за парады і на паштовыя расходы, не атрымаюць адказу на свае лісты.

—о—

Юрыдычная Сэкцыя паведамляе, што юрыдычныя парады высланы ўжо наступным інтэрэсантам: Гр. гр. Раману Прыбыплуку, Базылю Нехвядовічу, Канст. Чарапуку, М. Клаўсюцю і кс. Семашкевічу.

**Юрыдычная сэкцыя Інстытуту.**

## Гаспадарскі аддзел.

### Торф наша багацьце.

На Беларусі ёсьць шмат імшарных балот, якія пакрыты белым мохам, журавінамі, багульнікам, верасам і інш. На аднэй дзесяціне такога балота, згодна Горацкіх дасьледаў, кожны год нарастае каля 420 пудоў сухога моху. Сьцяблі гэтага моху кожны год згніваюць і ўтвараюць імшарны торф. Няма такога кутка ў нас, дзе-бы не знайшлося торфу. Мясцамі ён залегае глыбока, мясцамі плытка; бывае ён чорны, руды, валакністы, ці сыпучы.

Гэты торф для нашае гаспадаркі зьяўляецца капіталам, які мы мусім самі скарыстаць. Торф—годны для нас, як угнаеньне нашых спустошаных нівак, таксама і на апал. Торф найлепш капаць у позьнюю восень, калі ў гаспадарцы падбіраецца больш свабоднага часу. Выкідваючы торф з ямы трэба сыпаць яго ў невялікія капцы, каб торф праветрыўся і страціў шкодную для зямлі кваснасьць. У гэтакіх капцох торф мусіць ляжаць год. Калі торф ужо перагніў і прасох, дык яго можна вазіць у двор пад паветку.

Сухім торфам трэба пасыпаць гной у хлеве і прыкрываць яго саломай. Такім спосабам у нас прыбудзе гною і якасьць яго палепшыцца, бо торф забірае ў сябе ўсю жыжку ў хлеве, якая бяз торфу часта выцякае з хлева. Сухі торф карысна ўжываць да кампостаў: няма лепшага гною на нашы сады і гароды, як кампост з торфу. Кампост гэты робіцца так: торф кладуць у вал вышынёй 2 аршыны, шырынёй 3 аршыны. Перакладаюць яго саломай і пасыпаюць вапнай. Торф у валох павінен ляжаць цэлы год, у працягу якога трэба яго перакінуць лапатамі разоў тры, каб торф добра перарабіўся. Воз такога кампосту больш варт як некалькі вазоў гною з кепска кормленых жывёлаў. Калі ў гэты кампост трохі дабаўляць попелу з печы, сьмецьця, сажы і другіх адпадкаў гаспадаркі, якія марнуюцца ў нас, дык якасьць кампосту яшчэ ад гэтага палепшыцца. Тарфяны кампост добра ўжываць пад прышчэпы, ад чаго яны хутка растуць і даюць добрыя фрукты. Варыва па кампосьце расьце буйна і не баіцца засухі.

Скарыстоўваючы торф на подсьціл у хлеве, гэтым мы захоўваем салому на корм. Апрача гэтага, ужываючы торф на подсьціл, бывае больш гною, а жывёла менш прастуджваецца і лепш чуецца на здароўі.

Торф валакністы добра надаецца на апал. Наш хлебароб часта па дровы едзе за сьвет, між тым, як апал знаходзіцца пад бокам. Прыгатаўляецца торф на апал так: выразаюць з торфу цэглінкі, кладуць на два дні кантам, а калі ўжо цэглінкі добра абсохлі, дык складаюць іх у клетку, каб вецер праходзіў скрозь зложаны торф. Такім спосабам прасушаны торф можна ўжо вазіць у двор і хаваць у будыніну. Сухі торф гарыць добра і толькі патрэбны трэскі на падпалку.

**Гаспадар.**

## Весткі з Краю.

### Аб земляробскай выстаўцы ў Клецку.

Нядаўна адбылася ў Клецку трохднёвая земляробская выстаўка, наладжаная Клецкім акруговым Саюзам „Kółek Rolniczych“. Наагул выстаўка прайшла слаба: Былі выстаўляны тыя-ж плугі, бароны, малатарні арфы і г. д., якія селянін бачыць кожын дзень. Было некалькі гатунковых коней ды кароў, з вялікіх маёнткаў, пераважна з ардынацыі Радзівіла. Адзначаўся багацьцем сваіх эспанатаў аддзел збажжавых расьлін. Тутка ня толькі маёнткі, але і нашае сялянства (пераважна з хутароў), паказалі шмат цікавых рэчаў. Так адзін селянін прывёз сноп свайго жыта ў адзін сажэнь вышынёю, другі сноп аўса, трэцьці ячменю, грэчкі і г. д., словам сялянства паказала, што можа працаваць і ня чураецца навейшай земляробскай культуры. Затое нашы „культуртрагеры“ п. п. асаднікі, дык нічога ня прывязьлі на паказ, дый што яны маглі паказаць? Ім доўга яшчэ трэба вучыцца ў нашага селяніна!... Зьвяртаў на сябе агульную увагу, аддзел жаноцкіх работаў. Першае мейсца ў гэтым аддзеле займалі беларускія эспанаты, ткальнымі вырабамі нашых жанчын. Гледзячы на коўдры, ручнікі, настольнікі, палотна, радавалася сэрца, што наперакор заявам нашых ворагаў аб адсутнасьці кутьтуры і таленту ў Беларускім народзе, гэтакія, як паказала выстаўка, перавышаюць „культуру і здольнасьці“ п.п. асаднікаў, ды каляністых, якія нічога ня выставілі.

А гэтым апраўдваецца ўдзел беларускага сялянства ў польскай выстаўцы... Бяз гэтага была-б не пажадана прысутнасьць беларускіх экспанатаў на выстаўцы „Kółek Rolniczych“.

**Мужычок.**

## НАШАЯ ПОШТА.

**П. Доля.** Ваш заклік зьмяшчаем, вершы крыху заслабыя.

**А. Валуевічу.** Газэту пасылаем Вам.

Гр. **М. Вершыніну.** Матэрыялы атрымалі. Будзем друкаваць крыху пазьней.

**М. Мацюшу.** Можам выслаць Вам ад 69 нумару, калі прышліцё нам належную падпіску.

**Савошчыку С.:** — пробны нумар паслалі.

**П. Сапачу, Кізевічу Ф., Семашкевічу С., А. Хоцьку, Крулікоўскаму Ю.,** — газэту пасылаем.

**Дасталі ад:**

Захара Босага — 3 зл.; Арэхвы А., Варбіцкага В., Ганны Грышэль, Н. Смыка, Паляка Язэпа, Нікаповіча Сьц., Паляка Я., Кахансказа П., Таранцея Яз., Валцева Відолі — па 2 зл.; Кохно М., Пілецкага Гр. — па 1 зл.; Сапыля Ю. — 90 гр.

I адтуль, бы сьветлы дух,
Тварык мілы выглядае,
Здаваленьне, сьмех на ім.
Шчасьце радасьць маладая
Зьзяе сонцам веснавым.
— Ганна! Родненькая Ганя!—
Крок наперад ён ступіў,
Так зьдзівіўся! і ў тым стане
Рукі сьмешна апусьціў.
—Ай, Сымон! які дзіўны ты!—
Ганна сьмехам залілася.
Сьмех, бы зорамі спавіты,
I галоўка самавіта
З траўкі-зелені ўзнялася.
I бліскаюць яе вочкі,
Як у жыце васількі;
Голас—срэбраны званочак,
Шчочкі—макавы лісткі.
— Дзе спаткаліся, Сымонка!
Як-жа ты папаў сюды?
А як зыгнуў ад нас гонка—
Помніш тую ноч... тады?
Ганна борзда гаварыла,
Распытоўвала сябра,
Нават трошкі пажурыла,
Што іх выракся двара.
— Я зьбірала тут суніцы,
Зірк—аж бачу, нехта сьпіць!
Я спужалася, дурніца:
Злодзей, думаю, ляжыць!
Я ўжо бегчы прэч хацела,
Ды дай, думаю, зірну
На разбойніцкае цела“.
Крок ступаю я нясьмела,
Толькі ціхенька гарну,
Як зірнула-ж—і пазнала!
I так шкода цябе стала—
Не пасьмела я будзіць,
I гадзіны дзьве чакала—
„Няхай, думаю, пасьпіць“.
Ці здароў-жа? як жывецца?
Скуль ідзеш? куды? зачым?
Сядзьма тут!—Яна сьмяецца
I садзіцца радам з ім.
I так добра стала ў лесе!
Ён бярэ яе руку,
А зязюлька на суку
У жывой зялёнай стрэсе
Ім варожыць штось—ку-ку!
Ён глядзіць дзяўчынцы ў вочы,
Ён маліцца ёй гатоў,
Ёй сказаць так многа хоча,
Ды ня знойдзе толькі слоў—
Аж той дрозд з яго рагоча!

Сымон.

Ах, Гануська, як я рады!
I вось, Ганя, што дзіўно:
Мяне гнала штось з прысады
I шаптала мне адно—
„Ідзі ў лес, у лес зайдзі!
Адпачынь там пасядзі!“
I так вышла ўсё да ладу!

Ганна.

Ты-ж адкуль ідзеш, Сымонка?

Сымон.

Я ў карчме служыў, ды ўцёк.
Ох, карчмар мне так дапёк—
Ну, хоць кідайся ў палонку!

Ганна.

Бедны! бедны! А ты вырас,
Ну, зусім дзяцюк другі,
I няма тае смугі...
А ў вачох той самы выраз—
Сьлед нязбыўнае тугі...
А скажы: Ты помніў нас?
I мяне ці ўспомніў з раз?

Сымон.

Ня было тае часіны,
Таго вечара і дня,
Каб і ты й твая радня
Ня прыйшлі мне на ўспаміны.
Я ляжу адзін, бывала,
Ноч зацятая, жуда,
I сьмяртэльная нуда
Кіпці выпусьціць і джала.
Але ўспомню аб табе я—
Чымся добранькім павее,
Забываецца карчма;
Зноў абудзіцца надзея,
Што ў жыцьці ня вечна цьма.

Ганна.

Дык ты помніў, што ёсьць Ганна
Дзесь на хутары ў глушы?

Сымон.

Ты была ў маей душы,
Заўжды міла і жаданна.

Ганна.

Ты, здаецца, за сьняданьне
Думаў сесьці? Сьнедай, дружа!
Чаго тут сьціскацца дужа?
Абы меў на то жаданьне!
А то хочаш: будзем разам
Мы спраўляць маёўку тут?

Сымон.

Я скажу, як Шлёма: „гут!“

Ганна.

А мой полудзень пад вязам—
Баль устроім, як паны!
Там з суніцамі збаночак.
Сыру смачнага кусочак
I грачанікі-бліны.

У цяньку старога дрэва
Селі, сьнедаюць яны,
I іх сэрцы згоды, сьпеву,
Сьветлай радасьці паўны.
Не змаўкае іх гаворка:
Расказаў Сымон аб тым,
Як жылося яму горка,
Хто быў Шлёма і Якім,
Як ён рабіну ліхому
Там папомсьціўся за зьдзек,
I як пойдзе ён да дому—
Ён, з грашамі чалавек!
Павандруе ў сьвет з скрыпуляй,
Песьні будзе ён складаць,
Ён людзей дабром атуліць,
Каб палёгку людзям даць.
Потым сьціх Сымон панура,
Смутак зьлёг яму на твар,—
Так змаўкае перад бурай
Поля стомлены абшар.
Ганна голаву схіліла,
Смуткавала і яна,
Бы адным крылом акрыла
Іх мысль нейкая адна.

Сымон.

Што-ж мы змоўклі? Эх, Ганусь!
Як падумаю, што зноў
Я адзін павалакуся—
Проста ў сэрцы стыне кроў.
Я нядаўна быў шчасьлівы,
Не гадаў я ні аб чым,
Не палохаў сьвет жахлівы,
Як-бы я ня жыў у ім,
Бо ў той міг перад сабою
Меў цябе, цябе адну.

(Далей будзе.)

